*На прастор, на шырокі разлог*
*Выхадзі, мой народ, грамадою...*
Якуб Колас

№ 186 (538)

Пятніца, 16 кастрычніка 1998 г.
Выдаецца з ліпеня 1995 г.
на беларускай і рускай мовах
Перыядычнасць — 5 разоў у тыдзень

# Народная Воля

Кошт: у кіёсках і крамах — 4000 руб., у індывідуальных гандляроў — свабодны.



## Президент Беларуси направил госсекретаря Совета безопасности Виктора Шеймана в "горячую точку" — Югославию.

## "Голубь мира" (или "славянский ястреб"?) наделен, по заявлению официального Минска, "самыми широкими полномочиями"...

**Рэзананс**

## Хто ж стаў на абарону клікі Мілошавіча, якая нясе адказнасць за злачынствы супраць чалавечнасці?

На Балканах рассыпаецца апошняя камуністычная імперыя ў Еўропе. Харваты, баснійцы, славенцы не пажадалі больш жыць пад прыгнётам сербскага вялікадзяржаўнага гегеманізму. У выніку нацыянальна-вызваленчай барацьбы ўзніклі незалежныя дзяржавы, у якіх праводзяцца рэформы і якія паступова вяртаюцца ў сям'ю цывілізаваных народаў Еўропы. У Югаславіі ж пануе таталітарны камуністычны рэжым, які давёў эканоміку да калапсу, папірае правы чалавека і цэлых народаў. Шавіністычная кліка Мілошавіча, якая нясе адказнасць за злачынствы супраць чалавечнасці, здзейсненыя сербскімі агрэсарамі ў 1991—1995 гг., ужо некалькі год праводзіць генацыд албанскага насельніцтва правінцыі Косава. Урэшце міжнародная супольнасць рашуча выступіла супраць забойцаў у імкненні спыніць злачынствы.

Хто ж стаў на абарону мілошавіцкіх галаварэзаў? Зразумела, уз'яднальнікі ўсіх славян і самыя праваслаўныя камуністы ў свеце. Еўра-азіяцкая маскоўская імперыя, якая пераўзышла Югаславію толькі маштабамі эканамічнага развалу і каланіяльных войнаў, але прэтэндуе на геапалітычную ролю. Ды яшчэ ейны сатэліт — рэжым Лукашэнкі. На Беларусі, якая перажывае разбуральны эканамічны і сацыяльны крызіс, улады разгарнулі непараўнальную кампанію ваеннай істэрыі. Лукашэнка абяцае югаслаўскім імперыялістам ракеты, самалёты, строга перасцерагае Францыю, Вялікабрытанію "і іншыя краіны, якія лічаць, што яны недасягальныя". Уражвае перш за ўсё неадэкватнасць дзеяння кіраўніцтва Беларусі, краіны, абсалютная большасць насельніцтва якой жыве за рысай беднасці. Днямі ў Расію былі адпраўленыя 30 грузавікоў з прадуктамі харчавання (у нас няма галодных!). А ў Югаславію накіравалася група дзяржаўных спецыялістаў з Мінска. Беларусь зноў уцягваюць у небяспечныя ваенна-палітычныя гульні. Зноў выстаўляюць на пасмешышча перад усім цывілізаваным светам побач з такімі палітычнымі і эканамічнымі банкротамі, як Расія, Ірак, Лівія.

**Прэс-служба Беларускага народнага фронту "Адраджэньне".**

**Протест**

## Каждую копейку заработной платы профсоюз вынужден "вытягивать" у администрации — как раскаленную болванку из печи...

Утро 13 октября для администрации Минского автомобильного завода стало пасмурным. В цехах обсуждали листовку Свободного профсоюза металлистов, в которой разъяснялась суть решения генерального директора МАЗа, издавшего приказ о повышении заработной платы в этом месяце лишь на 15 процентов. И это в то время, когда в связи с обвальным ростом цен крупные заводы столицы, по сведениям свободного профсоюза, подняли заплату на 30 и более процентов.

Средняя заработная плата на МАЗе за сентябрь составила 6,8 миллиона рублей. Выдадут ее лишь к 20 октября и будет она эквивалентна по курсу "черного рынка" 45 долларам, а скорее всего, и того меньше. Кстати, еще весной этого года средняя заработная плата автозаводчан соответствовала 120 долларам. Тем не менее руководство завода громогласно заявило, что оснований для волнений у рабочих нет.

Совет Свободного профсоюза металлистов МАЗа предложил администрации поднять оплату на 50 процентов. Требование это, названное администрацией политическим, настолько переполошило мазовское руководство, что на утренней планерке 13 октября исполняющий обязанности генерального директора В.А.Калечиц говорил не о насущных потребностях производства, а о неких силах, которые стремятся дестабилизировать политическую обстановку на заводе с тем, чтобы сделать это предприятие фактором дестабилизации ситуации в республике.

У председателя свободного профсоюза МАЗа Михаила Маринича — своя оценка складывающейся на МАЗе ситуации. "Функция профсоюза, — говорит Маринич, — в том и состоит, чтобы отстаивать интересы работников наемного труда. Исходя из этого общего принципа, профсоюз всегда находится в оппозиции к нанимателю, а формы и методы достижения цели очень разные, в зависимости от обстоятельств. Чем острее ситуация — тем радикальнее меры, вплоть до угрозы проведения массовых акций протеста или забастовки". Вот этот резонный, взвешенный, цивилизованный подход к делу Свободного профсоюза администрация МАЗа переводит в политическое русло, обвиняя профсоюз и его и лидера Михаила Маринича в разжигании страстей...

В тот же день 13 октября состоялось заседание комиссии по коллективному договору между администрацией и профсоюзами, которая и должна была вынести "вердикт" по коренному на сей момент вопросу: так на 15 или на 50 процентов увеличивать зарплату работникам завода в связи с очередным витком инфляции и обвальным ростом цен в Беларуси?

Появление в административном корпусе журналиста и депутата Верховного Совета 13-го созыва В.Щукина и высказанное им желание присутствовать на заседании не вызвало у большинства членов комиссии ни малейшего энтузиазма. Представителей прессы пытались выдворить с заседания силой, против чего резко выступил председатель Свободного профсоюза металлистов М.М.Маринич. Председателю комиссии В.И.Бабарикину ничего не оставалось делать, как поставить вопрос о "свободе слова" на голосование: большинство высказалось против гласности... Журналистам пришлось удалиться.

Что же решила комиссия за закрытой дверью?

Заработная плата за октябрь, которую заводчане получат к 20 ноября, возрастет лишь на 17,6 процента. И то при условии, что не будет простоев. Вопрос о дальнейшем повышении зарплаты остался открытым. Профсоюзы и администрация договорились о том, что к 26 октября генеральная дирекция обязуется изыскать финансовые средства для того, чтобы повысить зарплату в октябре на 30 процентов. "Будем ждать у моря погоды", — с горечью подвел итог Михаил Маринич.

Комиссии, с точки зрения журналиста, в самом деле было что скрывать от прессы. Оказывается, из всей комиссии только у председателя Свободного профсоюза металлистов М.Маринича зарплата равна средней по заводу. У остальных же членов комиссии она составляет от двух до четырех среднезаводских. То есть для них лично проблема выживания далеко не так актуальна, как для работников завода. И вышло все, как в поговорке, — сытый голодного не разумеет...

**Данила ХАЛЕЦКИЙ.**

**Стоп-кадр**



## Стеклотара как источник "навара"

Пустая бутылка из-под водки с точки зрения жаждущих выпить — это источник иссякший. Пустая банка из-под маринованных огурчиков, по мнению сторонников культурного застолья, — не закусь. Однако стеклотара обладает залоговой стоимостью, и именно это ее свойство делает ее столь привлекательной для индивидуальных собирателей порожних бутылок.

Жители Ветковского района Беларуси занятие, типичное для нищенствующих старух и стариков, превратили в прибыльный бизнес, поставленный на широкую ногу. Предприниматели ездят к соседям, в деревни Брянской области, и "принимают" там стеклотару у местных жителей на дому. Тамошние сельчане уже и забыли, что такое приемные пункты, они не знают, куда девать бутылки и банки, а некоторые более "догадливые" просто закапывают их в землю. Многие из них не получают зарплату несколько лет и потому за бесценок с радостью отгружают белорусским заготовителям стекло. Последние сдают ее дома по полноценной залоговой стоимости — вот и выгода.

Закона, запрещающего ввоз в Беларусь пустой тары, нет, так что бизнес пока процветает: иные вояжеры за один рейс провозят на легковом автомобиле с прицепом до полутора тысяч бутылок.

На снимке запечатлен момент: на контрольном пункте милиции рейдовая бригада проверяет груз "бутылочного" предпринимателя. Стражи порядка ему и другим "стеклотарщикам" могут сказать лишь одно: "Езжайте с миром!"

Что и говорить, голь на выдумки хитра, причем по обе стороны российско-белорусской "прозрачной" границы: Брянщина от горькой жизни пьет "горькую", Гомельщина на беде соседей зарабатывает свой "навар" — области-побратимы да и только. Вот уж действительно, "народная интеграция" в действии...

**Людмила ВАЛЕНТИНОВА.**

**Гучная справа**

## Епіскапа Пятра Гушчу вызвалілі з-за кратаў

*У сераду пасля сямімесячнага ўтрымання ў СІЗА Мінска вызвалены з-за кратаў епіскап Беларускай аўтакефальнай праваслаўнай царквы Пётр Гушча.*

Нагадаю, што святара затрымалі 6 сакавіка гэтага года. Пятра Гушчу абвінавацілі ў тым, што ён быццам бы на працягу паўгадзіны займаўся... аналізмам ў адным з дзіцячых садкоў Мінска. У сакавіку супраць епіскапа Беларускай аўтакефальнай царквы пракуратурай Савецкага раёна сталіцы была ўзбуджана крымінальная справа па 118-м артыкуле Крымінальнага кодэкса Рэспублікі Беларусь. Але следства не даказала, што Гушча займаўся распустай у адносінах да непаўналетніх. І тады святару прад'явілі другое абвінавачванне па частцы 2 артыкула 201 Крымінальнага кодэкса Беларусі — злоснае хуліганства.

Судовы працэс над Пятром Гушчам пачаўся 21 жніўня. Пасля трох дзён пасяджэнняў суд Савецкага раёна Мінска вынес прыгавор. Святара асудзілі на 3 гады суровага рэжыму.

Аднак Пётр Мікалаевіч, а таксама яго адвакат Міхаіл Воўчак і грамадскі абаронца Гары Паганяйла падалі апеляцыю ў Мінскі гарадскі суд і дабіліся перагляду прыгавора.

13 кастрычніка судовая калегія па крымінальных справах Мінскага гарадскога суда пад старшынствам Рыгора Казырыцкага разгледзела касацыйную скаргу Пятра Гушчы. На здзіўленне, усё адбывалася вельмі хутка. Суддзя зачытаў выпіску рашэння гарадскога суда, згодна з якой прыгавор суда Савецкага раёна адмянілі і знізілі меру пакарання Пятру Гушчу. Святар атрымаў тры гады ўмоўна з адтэрміноўкай на два гады і ў той жа дзень быў вызвалены з-за кратаў.

**Марыя ЭЙСМАНТ.**

## Абрабаваць банк паспрабаваў... міліцыянер

У Гродне арыштаваны двое злачынцаў, якія паспрабавалі некалькі тыдняў таму абрабаваць мясцовы філіял "Беларусбанка". Адзін з затрыманых — сяржант міліцыі, які служыў у мясцовым аб'яднанні "Варта" і працаваў у ахове названага банка. Другі арыштаваны — яго прыяцель.

У пачатку жніўня яны ледзь не паўтарылі нашумелае абрабаванне паўтарагадовай даўнасці, калі з філіяла "Пріорбанка" ў абласным цэнтры злодзей, асоба якога да гэтага часу не ўстаноўлена, выкраў больш за мільярд рублёў. Ажыццявіць задуманае ім перашкодзіла чыстая выпадковасць. Звязаўшы міліцыянера-вартаўніка і адчыніўшы загадзя падрыхтаванымі ключамі-дублікатамі сейф, які знаходзіўся ў сховішчы, яны ўжо былі гатовы забраць усё, што там ляжала, але да будынка банка нечакана пад'ехала аўтамашына. Міліцыянеры з аб'яднання "Варта" накіраваліся не ў філіял банка, а ў размешчаную побач ювелірную майстэрню. Не ведаючы аб гэтым, зладзеі выскачылі з акна другога паверха і ўцяклі, не крануўшы ў сейфе два з палавінай мільярды рублёў, 4 тысячы амерыканскіх долараў, а таксама іншую валюту і матэрыяльныя каштоўнасці.

Затрыманым прад'яўлена абвінавачанне ў спробе абрабаваць банкаўскі філіял. Вядзецца следства.

**Самі з вусамі**

## Магілёўскі рапс пойдзе на алей

Свой рапсавы алей будзе ў Магілёўскай вобласці. У Бабруйскім раёне ў вёсцы Хімы ўведзены ў строй новы завод па перапрацоўцы алейных культур. Ён аснашчаны высокапрадукцыйным нямецкім і айчынным абсталяваннем. У год гэта прадпрыемства можа перапрацоўваць трынаццаць тысяч тон сыравіны. Прычым не толькі насенне рапсу. Пры невялікай тэхналагічнай пераналадцы абсталявання ў справу пойдзе насенне льну, сланечніку. Бабруйскі завод будзе працаваць на мясцовай сыравіне. Ужо ў гэтым годзе з калгасамі і саўгасамі вобласці заключаны дагаворы на пастаўку 5,5 тысячы тон насення рапсу. Праўда, пакуль паступіла крыху больш як чатырыста тон. У 1999 годзе гаспадаркі Магілёўшчыны пашыраць пасевы гэтай культуры да пятнаццаці тысяч гектараў, каб забяспечыць мясцовае перапрацоўчае прадпрыемства сыравінай пад усю яго праектную магутнасць.

**Мікалай НАЗАРОВІЧ, БелТА.**

**З нагоды**

## Юрась БЕЛЕНЬКІ: "Дзесяць гадоў нашага змагання пераканаўча засведчылі, што Беларусь сапраўды жыве!"

**Напярэдадні юбілею Беларускага народнага фронту адзін з яго заснавальнікаў і цяперашніх лідэраў Юрась БЕЛЕНЬКІ адказвае на пытанні рэпарцёра "Народнай волі" Вольгі КЛАСКОЎСКАЙ**

*У нядзелю, 19 кастрычніка, адзначае сваё дзесяцігоддзе Беларускі народны фронт "Адраджэньне". Тады, восенню 88-га, мясцовая партакратыя, якая заўсёды на ўцеху Маскве ўзорна шчыравала на ніве змагання з "национализмом", пнулася любым кшталтам перашкодзіць стварэнню масавага руху за адраджэнне Бацькаўшчыны. Калі ж падзея адбылася, праз афіцыёзны друк на БНФ абрынулася брудная хваля інсінуацый.*

*Не ў пашане, мякка кажучы, Фронт і ў цяперашніх улад. Але тое, што ён здзейсніў за дзесяцігоддзе дзеля дэмакратызацыі грамадства, уздыму нацыянальнага духу, ужо не выкрасліш з гісторыі. І яе няўмольная хада, як бы ні тужыліся цемрашалы, усё расставіць па сваіх месцах.*

*Ва ўпартым палітычным змаганні за дастойны нацыі заўтрашні дзень, за вольную ды заможную будучыню народа і сустракае Фронт сваю адметную дату.*

**— Нават тыя, хто ненавідзіць Фронт, мусяць прызнаць, што ягоныя прагнозы фантастычным чынам непазбежна збываюцца...**

— Сапраўды, толькі ніякай фантастыкі тут няма. У адрозненне ад сваіх апанентаў, мы не займаемся палітычнай міфалогіяй, а абапіраемся на цвярозы і аб'ектыўны навуковы аналіз грамадскай сітуацыі і заканамерных тэндэнцый яе развіцця.

Няварта далёка хадзіць — возьмем жахлівы фінансава-эканамічны абвал у Расіі, з нагоды якога айчынныя дзяржаўныя мужы робяць круглыя вочы. Між тым, бы ў ваду глядзеў Зянон Пазьняк, выступаючы на сесіі Вярхоўнага Савета роўна 7 гадоў таму, 17 кастрычніка 1991 года: "У Расіі наспявае эканамічны і палітычны абвал. Толькі сляпы гэтага не разумее. Будзе вельмі кепска, калі з-за неразважлівасці кіраўніцтва Беларусі мы не здолеем засцерагчы наш народ, гаспадарку і рэспубліку ад гангрэны распаду".

Афіцыйны Мінск, аднак, усе гэтыя гады пад барабаннымі лозунгамі інтэграцыі з "вялікай суседкай" ды "славянскага ўз'яднання" праводзіў менавіта сляпы курс жорсткай прывязкі нашай нацыянальнай эканомікі (ды і палітыкі таксама) да разбітай расійскай калясніцы. У выніку маем сёння цэлы букет заканамерных наступстваў: следам за расійскім рублём абваліўся "зайчык", энерганосьбіты абыходзяцца даражэй за сусветныя кошты, пагражае навакольнаму асяроддзю сумна вядомы расійскі вайсковы аб'ект пад Баранавічамі і г.д.

А магло ж быць зусім іначай. Стартуючы прыкладна ў аднолькавых з Беларуссю ўмовах, зайздросных поспехаў дамагліся тыя посткамуністычныя краіны, што, вылузнуўшыся з крамлёўскага хамута, абралі самастойны шлях радыкальных рынкавых і дэмакратычных рэформаў, — Чэхія, Венгрыя, Польшча, дзяржавы Балтыі...

Беларускі народны фронт, хоць праціўнікі заўжды і абвінавачвалі нас у голай дэмагогіі, даўно мае адпаведную рэфарматарскую праграму.

**— Вы лічыце, што да яе мусяць звярнуцца цяперашнія ўлады?**

— Раз-пораз наступаючы на граблі, яны сапраўды пад ціскам абставін "пазычаюць" штосьці з нашых праграмных эканамічных ідэй, натуральна, забываючыся спасылацца на аўтарства. Але па вялікім рахунку беларускай дзяржаве патрэбна зусім іншае, нацыянальна свядомае кіраўніцтва, якое арыентавалася б не на "светлае мінулае", а на цывілізаваныя прынцыпы рынку ды дэмакратыі, на інтэграцыю Беларусі ў еўрапейскую ды сусветную супольнасць. Цяперашняя ж дзяржаўная эліта няздольная на гэта, што называецца, па вызначэнні.

**— Між тым яна не стамляецца з гнеўным выкрывальніцкім пафасам бэсціць БНФ за тое, што ён "рвецца да ўлады".**

— Такія абвінавачванні толькі сведчаць пра ўзровень яе палітычнага мыслення. Барацьба апазіцыі за прыход да ўлады — натуральная з'ява ў сапраўды дэмакратычным грамадстве. Аднак "дэмакратыя па-беларуску" — гэта, як вядома, дубінкі супраць маніфестантаў, турэмныя краты для апазіцыйных актывістаў, дзяржаўная манаполія на сродкі масавай інфармацыі...

Ці варта дзівіцца, што ад афіцыйнага Мінска з ягонай дрымучай псіхалогіяй канфрантацыі як на ўнутрыпалітычнай, так і на міжнароднай арэне (згадаем хаця б пра скандальна вядомыя Драздьі) адхіснулася практычна ўся цывілізаваная сусветная грамада?

**— Казённая прапаганда сцвярджае, што дзейнасць Фронту інспіруецца менавіта каварным Захадам, а кіраўніцтва БНФ знаходзіцца ледзь ці не на службе ў ЦРУ...**

— Для любога, у каго свая галава на плячах, гэтыя да болі знаёмыя прыёмчыкі таталітарысцкай прапаганды смеху вартыя. Так, замежжа салідарнае з нашай барацьбой, бо тыя прынцыпы дэмакратыі, рыначнай эканомікі, павагі да правоў чалавека, за якія мы сёння мусім весці зацятае змаганне, даўно сталі на Захадзе святымі.

Разам з тым дзейнасць Фронту грунтуецца на трывалым падмурку, закладзеным папярэднімі пакаленнямі змагароў за незалежнасць Бацькаўшчыны, захаванне самабытнасці беларусаў у сусветнай сям'і народаў. У гэтым сэнсе зусім не толькі сімвалічны сэнс мае вылучаная БНР і падтрыманая намі ініцыятыва датычна грамадзянства БНР. Гэта — не спроба вярнуцца ў мінуўшчыну (туды цягнуць нашу краіну якраз тыя, што зараз асядлалі саноўныя крэслы), а, калі казаць высокімі словамі, своеасаблівая прысяга свядомых сыноў і дачок нашай зямлі ў імя дастойнай будучыні сваёй Айчыны.

Дзесяць гадоў БНФ пераканаўча засведчылі: сапраўды — "Жыве Беларусь!"

## Зменшыўся намалот збожжа

Паводле даных статыстыкаў, у параўнанні з мінулым годам на 22 працэнты зменшыўся намалот збожжа, што адбілася і на аб'ёмах дзяржаўных закупак гэтага віду сельгаспрадукцыі. За дзевяць месяцаў бягучага года ў параўнанні з адпаведным перыядам мінулага ў засекі засыпана збожжа на 16 працэнтаў менш.

## Праблемы фінансавага крызісу абмяркоўваюцца ў Швейцарыі

У Жэневе пачала работу 45-я сесія Савета па гандлі і развіцці (ЮНКТАД).

У рабоце сесіі прымаюць удзел дэлегацыі больш як ста краін-удзельніц гэтага савета, а таксама ў якасці наглядальнікаў — прадстаўнікі амаль 20-ці міжнародных арганізацый. У першы дзень тут адбылася дыскусія па адным з галоўных пытанняў парадку дня сесіі — "Узаемазалежнасць і глабальныя эканамічныя пытанні праз прызму гандлю і развіцця: прычыны, урэгуляванне і прадухіленне фінансавага крызісу". У рамках яе была прааналізавана роля знешніх і ўнутраных фактараў у правакаванні валютных узрушэнняў. 45-я сесія Савета па гандлі і развіцці (ЮНКТАД) завершыць сваю работу 23 кастрычніка.

## Нобелеўскую прэмію атрымаюць тры фізікі

У гэтым годзе Нобелеўскую прэмію па фізіцы падзеляць паміж сабой тры прафесары фізікі з Амерыкі: Роберт Лафлін, Хорст Сцёрмер, Даніэл Цуі. Адкрыццё, зробленае імі ў квантавай фізіцы, не мае пакуль што практычнага прымянення, але з'яўляецца адным з буйнейшых у гэтай галіне.

Вучоныя-фізікі ўжо атрымалі прэстыжны прыз амерыканскага таварыства фізікаў імя Олівера Баклей. Яны ўнеслі яшчэ адзін істотны ўклад у квантавую фізіку, лічыць шведская акадэмія навук у сваёй матывацыі Нобелеўскай прэміі.



## В Варшаве идет разговор о нарушении прав человека. В том числе и в Беларуси...

Сегодня в Варшаве в стенах Сената продолжит работу 3-я Международная конференция по правам человека. Участие в варшавской конференции принимают около 700 гостей из 39 стран мира. Среди участников — правозащитники из Северной Кореи, Китая, Кубы, Словакии, Чечни, России, Беларуси. На конференцию прибыли такие известные политические и общественные деятели, как российский правозащитник Сергей Ковалев, президент Чечни Аслан Масхадов, бывший председатель ВС Беларуси Станислав Шушкевич и др. Конференция проходит под почетным патронажем премьер-министра Польши, маршалков Сейма и Сената, а также министра иностранных дел РП. Профинансировали проведение конференции, в том числе и приезд гостей из бывшего СССР, ряд польских министерств, ОБСЕ, фонд "Freedom House", а также такие польские фирмы, как авиакомпания LOT, Телекоммуникация, государственная страховая компания PZU, банки Pekao S.A. и PBK и др.

История этой конференции насчитывает уже 10 лет. Этой дате, а также 50-летию Всеобщей декларации прав человека и посвятили 3-ю Международную конференцию по правам человека ее организаторы, выводящиеся из польской "Солидарности". Именно первый независимый польский профсоюз в 1989 г. в полулегальных условиях организовал и провел в Мистшеёвицах, недалеко от Кракова, первую конференцию, на которую собралось более 1200 участников, в том числе около 300 заграничных гостей. Вторая конференция планировалась в литовской столице в 1990 г., однако в связи с блокадой Вильнюса советскими войсками была перенесена в Ленинград, чему содействовал в значительной степени нововыбранный городской Совет Ленинграда. В нынешнем году традиция конференций была возрождена, однако будет ли у нее продолжение в будущем, трудно сказать. Как говорит председатель оргкомитета сенатор Збигнев Ромашевски, если участники конференции посчитают ее полезной, то, возможно, сразу же создадут международный оргкомитет для подготовки следующей подобной встречи. По его мнению, последующие конференции могли бы проходить в других странах, например, бывших советских республиках.

Программа варшавской конференции весьма насыщенна: участники ее встретятся на двух пленарных заседаниях, примут участие в работе проблемных сессий, проведут национальные брифинги для прессы и заинтересованных лиц о ситуации с правами человека в отдельных странах. В центре внимания участников конференции будут проблемы, связанные с институтом государства как гаранта прав личности, а также опасностей, которые несет для прав человека государство, влияние глобализации на права человека. Организаторы заверяют, что в ходе встречи представителей разных стран и культур будут подниматься и контроверсийные проблемы: универсальна ли Всеобщая декларация прав человека, можно ли спустя 50 лет от принятия Декларации назвать ее требования соответствующими современному миру?

Накануне конференции организаторы не сообщали полного списка белорусских участников — из "соображений безопасности", по их словам. Известно, что некоторые приглашенные из ряда стран, где больше всего нарушаются права человека, не смогли приехать в Польшу в связи с тем, что их не выпустили за границу.

**Людмила ГУЛЯКЕВИЧ.**

## Ці патрэбна дыета жывёле?

Група гомельскіх эканамістаў распрацавала праграму аптымальнага кармлення буйной рагатай жывёлы, свіней і птушкі. Тэарэтычныя падлікі даюць падставы сцвярджаць аб значным зніжэнні сабекошту рацыёнаў пры строгім захаванні балансу ўсіх неабходных для жывёлы вітамінізаваных і мінеральных дабавак. Як заявіў карэспандэнту БелТА адзін з распрацоўшчыкаў рацыянальнага ўтрымання жывёлы Алег Кананенка, існуючыя рацыёны кармлення ў гаспадарках рэспублікі пры новым метадзе можна зменшыць на 20—30 працэнтаў без зніжэння прадукцыйнасці жывёлы. Праўда, пакуль ніхто з кіраўнікоў калгасаў і саўгасаў Гомельшчыны не адважваецца прымяніць дыету на практыцы.

Ведайце!

Юрый ХАДЫКА, прафесар

# Што мае Беларусь ад таго, што Масква рвецца стаць "трэцім Рымам"

Гісторыя Расіі — гэта ланцуг крызісаў, падзеленых перыядамі застою, якія ўзрываліся звычайна ў выніку вайсковых паразаў і спроб унутранага рэфарміравання. З веку ў век паўтаралася адна агульная схема: параза — спроба рэформ — рэакцыя і застой.

Як краіна, што прэтэндуе на сусветную ролю, Маскоўская дзяржава склалася ў канцы XV — пачатку XVI стагоддзяў. Гэта час, калі паўстала геапалітычная тэорыя: "Масква — трэці Рым, а чацвёртаму не бываць". Выбуховы рост тэрыторыі і ваеннай магутнасці пры Іване III і Васіле III і, адпаведна, багацця замацавалі гэтую тэорыю. Канчаткова асаблівасці дзяржаўнага і сацыяльнага ладу склаліся пры Іване IV, якому да таго ж удалося забяспечыць стратэгічна выгадныя ўмовы для сваёй дзяржавы, знішчыўшы Казанскае і Астраханскае ханствы, пасля чаго ворагаў у Масквы не засталося ні на Поўначы, ні на Усходзе.

Гэтыя асаблівасці наступныя:

1) абсалютная сакральная манархічная ўлада. Ідэя запазычана з сярэднявяковай Грэцыі-Візантыі і замацаваная дынастычным шлюбам Івана III з Сафіяй Палеалог, пляменніцай апошняга Канстанцінопальскага ўладара. У адрозненні ад Захаду свецкая ўлада ў Маскве заўсёды была вышэй за духоўную, а прапагандысцкі апарат царквы абслугоўваў і апраўдваў дзяржаўную палітыку, якая зыходзіла з права "сапраўднага хрысціянскага імператара" на сусветнае панаванне;

2) гэтая ўсходне-хрысціянская ідэя дзяржаўнасці атрымала афармленне на ўсходні, мусульманскі манер, да чаго прычынілася найперш 250-гадовае падпарадкаванне Масквы Залатой Ардзе. Для мусульманскага свету не характэрна ідэя свецкай прававой дзяржавы. Крыніцаю права там з'яўляюцца Каран і воля манарха. Ні годнасць, ні жыццё асобнага чалавека — нішто перад інтарэсамі супольнасці, якія ўвасабляе манарх.

Ужо Іван IV Жахлівы прыводзіць дзяржаўную і сацыяльную структуру краіны ў поўную адпаведнасць з усходнім, азіяцкім узорам.

Ён фізічна вынішчае радавую арыстакратыю і стварае сацыяльную групу "дваровых" — служылых людзей. Пераўтварае прыватна-ўласніцкія землі родавай арыстакратыі ў дзяржаўную маёмасць, канчаткова "запрыгоньвае" сялян. Стварае аналаг усходняй "прэтарыянскай гвардыі" — янычараў у выглядзе стралецкіх аддзелаў. Гэты інстытут праз тайную паліцыю (жандармерыю, ВЧК, ОГПУ, КДБ, ФСБ) захаваецца да нашых дзён. Ён мае мала агульнага са спецслужбамі заходніх краін — МІ-5, ЦРУ. Ён, хутчэй, бліжэй да гестапа — па шырыне функцый і ваеннай магутнасці;

3) ідэі выбранасці, месіянства, а таксама поўная бяспраўнасць асобы нараджаюць спецыфічную сацыяльна-псіхалагічную рысу — патранізм. Ірацыянальную веру ў абарону і выратаванне ад асобы манарха, падаўленне прыватнай ініцыятывы і яе дыскрэдытацыя. Стадны інстынкт. Згоду з правам дзяржавы бязлітасна караць любое іншадумства.

Канчаткова ідэалогія расійскага імперыялізму афармляецца ў XIX стагоддзі і канцэнтравана выражаецца ў формуле "праваслаўе, самадзяржаўе, народнасць". Лёгка заўважыць, што камуністы толькі мянялі назвы гэтых трох кітоў расійскага імперыялізму. Замянілі праваслаўе на марксізм-ленінізм з тымі ж месіянскімі прэтэнзіямі на канчатковую ісціну і сусветнае панаванне, цара — на генсека, а потым — на прэзідэнта з "царскімі", па трапным выразе А.Лукашэнкі, паўнамоцтвамі і адпаведнымі грамадзянскімі рытуаламі. А народнасць — калектывісцкі ідэал — пакінулі без змен, хаця "служылых" людзей замянілі на наменклатуру КПСС.

Такім чынам, расійская ментальнасць фарміравалася на працягу 500 год, як ментальнасць народа, які жыве ў "ідэальнай дзяржаве", мадэль якой ён павінен распаўсюдзіць на ўвесь свет. Адсюль афіцыйны расійскі фанатызм і веранецярпімасць, клаустрафобія (увесь час куды-небудзь "рубяць" вакно) і нянавісць да іншаземцаў, якая лёгка пераходзіць у слязлівую любоў. Асабліва, калі гэтыя іншаземцы губляюць сваю дзяржаўную незалежнасць. Узгадаем, як у Маскве "любілі" прыбалтаў і каўказцаў. І як любяць зараз.

У "ідэальнай дзяржаве" няма чаго паляпшаць. Акрамя дробязяў. Таму натуральная форма яе жыццядзейнасці — знешняя агрэсія. Тым болей што паспяховая агрэсія дае багацце, хаця і часовае. Маскоўскія музеі і бібліятэкі — гэта ў сваёй большасці склады нарабаваных каштоўнасцей.

Наадварот, непаспяховая агрэсія стварала повад. Пры гэтым рэформы зверху заўсёды насілі прымусовы, часам крывавы характар і самі часта правакавалі бунт.

Так, калі агрэсія Васіля III супраць Вялікага княства Літоўскага захлынулася, і на Маскве ўсталявалася так званая сямібаяршчына — алігархічнае праўленне, наступіла крывавая "рэвалюцыя зверху" Івана IV і "застой". Правал ягонай агрэсіі на Захадзе выклікаў рэформы Барыса Гадунова, якія пацягнулі за сабой бунт і "смутны час". Ён скончыўся ўсталяваннем манархіі Раманавых і застоем, які жывіўся захопам Украіны. Аднак правал "азоўскіх паходаў" выклікаў крывавую рэвалюцыю Пятра I і працяглы (больш чым стогадовы) застой. А "героям" яго стала Кацярына II — распусніца і тройчы царазабойца, якую тым не менш абвясцілі ледзьве не ідэальнай манархіняй, бо захапіла Рэч Паспалітую і Крым.

Цяжкія войны з Напалеонам, якія не далі Маскве тэрытарыяльных набыткаў, прывялі да няўдалых спроб рэфарміравання і паўстання дзекабрыстаў. Вайсковы правал у Крымскай вайне выклікаў рэформы Аляксандра II і крывавае падаўленне "польскага" паўстання. Яны змяніліся застоем пры Аляксандры III. А параза ў вайне з Японіяй — рэвалюцыяй 1905 года і сталыпінскімі рэформамі, якія пацягнулі крывавы бунт 1917 года, грамадзянскую вайну і "вяртанне назад" да застою.

Перамогі ў захопніцкіх войнах ніколі не вялі ў Расіі да рэфарміравання. Яны служылі толькі пацвярджэннем веры ў "ідэальную дзяржаву". Так, хутка праеўшы нарабаванае ў другой сусветнай вайне, СССР перайшоў у бліскучую эпоху застоя "развітога сацыялізму". Толькі параза ў Афганістане спрычынілася да "перабудовы", у чарговы раз высветліўшы беспадстаўнасць спадзявання ў месіянскую ролю Масквы, яе сусветна-гістарычнае значэнне.

Рэформы М.Гарбачова, а потым і Б.Ельцына сутыкнуліся не толькі з супраціўленнем наменклатуры — служылага класа камбюракратыі, але і пакладіся на неспрыяльную сацыяльную псіхалогію, дзе не была разбурана вера ў выбранасць, асаблівы шлях Расіі. Гэта прывяло да вокамгненнага адраджэння расійскага шавінізму, які стаў ідэалагічнай зброяй антырэфарматарскіх сіл. Ён яшчэ больш расквітнеў у выніку паразы ў чэчэнскай вайне. Таму прыход на фоне правалу рэфарматарскай палітыкі да ўлады Я.Прымакова — вонкавая праява пачатку трэцяга этапа — этапа рэакцыі.

Расійскім шавіністам, якія мараць пра чарговую стабілізацыю — застой, вельмі патрэбна Беларусь. Небяспека аншлюса Беларусі тым большая, што марыянеткавы рэжым Лукашэнкі, які, я лічу, з'яўляецца "пятай калонай" расійскіх шавіністычных сіл, гатовы прадаць нашу незалежнасць па вартай смеху цане — за ўключэнне свайго шэфа ў расійскае палітычнае поле. Таму мы і з'яўляемся сведкамі неверагоднай для здаровага сэнсу сітуацыі — калі ў суседа разгараецца полымя ўсеахопнага крызісу, Беларусь, замест таго каб уцякаць ад пажару, рвецца ў палаючы дом.

Падводзячы вынікі гэтаму аналізу, я сцвярджаю, што наш шанс — адстаяць незалежнасць Беларусі і перспектыву нацыянальна-культурнага адраджэння — у паспяховым разбурэнні веры ў "трох кітоў" расійскага імперыялізму. Не — праваслаўна-панславісцкай ідэалогіі! Не — любым формам самаўладдзя! Не — нівеліроўцы грамадзянскай супольнасці пад лозунгам народнасці і народнага прэзідэнта! Да — нацыяналізму, абароне інтарэсаў беларускага народа! Да — прадстаўнічай дэмакратыі, парламентарызму і мясцоваму самакіраванню! Да — правам чалавека, яго ініцыятыве і годнасці, яго праву мець сваё нацыянальнае аблічча!

Гэта азначае змаганне за сродкі масавай інфармацыі і стварэнне сваіх СМІ. Гэта прапаганда праз сустрэчы і масавыя акцыі. Гэта — аб'яднанне ўсіх апазіцыйных рэжыму сіл на платформе абароны суверэнітэту і вяртання Канстытуцыі-94, падтрымка Вярхоўнага Савета 13-га склікання. Недапушчальныя самаізаляцыя, сектанства, супрацьпастаўленне. Мы павінны патрабаваць прэзідэнцкіх выбараў у 1999 годзе. Не будзе — добра. Тым больш неабходна іх патрабаваць. Свабодных і дэмакратычных. Хоць на сёння гэта верагодна толькі чыста тэарэтычна. Але за гэта трэба змагацца.

Расія супакоіцца з прыходам да ўлады Я.Прымакова. Яна атрымала моцнага і добра спакушанага ў палітычных гульнях прэм'ера. Супакояцца і рэформы. А знешняя агрэсіўнасць узрасце. Для лёса Беларусі важна высветліць, у якой ступені беларускі менталітэт набрыняў за часы каланіяльнай залежнасці маскоўскай нецярпімасцю, самаўпэўненасцю і страхам свабоды. Ці будзем мы любіць Яўгена Максімавіча гэтак жа самаахвярна, як Аляксандра Рыгоравіча?

Але на гэтае пытанне няхай кожны адкажа сабе сам.

## Заявление координационного совета Белорусской ассоциации молодых политиков

# Власть и неврастения — несовместимы

Признавая как факт экстравагантность поступков и непредсказуемость действий президента Лукашенко;

осознавая, что ложь, обман, манипуляции являются естественной закономерной составляющей политики авторитарных режимов;

понимая, что в условиях тотальной монополизации властями электронных средств массовой информации происходит циничное оболванивание и зомбирование части населения

Белорусская ассоциация молодых политиков (БАМП) рассматривает заявления Лукашенко о якобы готовящемся акте его физической ликвидации с участием посольств зарубежных государств как грубую провокацию.

Цели данной акции очевидны:

используя антиевропейскую, антизападную риторику, Лукашенко поднимает свой рейтинг среди национал-патриотической части российского электората;

навязывая населению республики тему "вашингтонско-брюссельского заговора", политическое руководство Беларуси пытается отвлечь граждан от реальных насущных проблем: безудержного роста цен и обнищания, разорения и банкротства тысяч субъектов хозяйствования.

Это далеко не первая попытка подобным образом создать себе имидж борца за народное счастье и выпросить слезы сострадания у нищих пенсионеров. Однако все предыдущие громкие заявления о якобы имевших место случаях покушения на Лукашенко на деле оказались лишь пропагандистским трюком. Более того КГБ Республики Беларусь официально заявил, что вся угроза для жизни главы государства сводится к заявлениям трех душевнобольных пациентов (документ №11/2-3099 от 21.11.96 за подписью председателя КГБ В.Мацкевича).

Последствия высказываний Лукашенко для Беларуси — очевидны. Заявление президента — это выстрел "лиозненских стрелков" по международному престижу Беларуси, следствием которого явится усиление режима самоизоляции страны от Европы со всеми вытекающими негативными последствиями в сфере экономики, политики, культуры.

В существующих условиях БАМП требует:

1. В рамках инициативы "Свободное слово — в прямой эфир" предоставления времени на белорусском телевидении с целью доведения до населения страны, что же в действительности стоит за "вашингтонско-брюссельским заговором".

2. Провести медицинское освидетельствование и опубликовать в СМИ содержание личных медицинских карт высших должностных лиц страны.

3. Ввести криминальную ответственность для высших должностных лиц за распространение заведомо лживой информации.

**13 октября 1998 года.**

Стоп-кадр



Мінск. Від на Траецкае прадмесце.

Слышали?

# Патриарх Константинопольский — в Польше

По приглашению нового главы польской православной церкви митрополита Савы в Польшу нанес визит патриарх Константинопольский Варфоломей I, почетный глава всего православия — "первый среди равных". В христианском мире его считают вторым по важности после Папы Римского, поскольку Варфоломей I носит титул Экуменического православного патриарха (т.е. всеобщего), а Константинополь называют "вторым Римом".

Варфоломей I — Димитриос Архондонис — родился 29 февраля 1940 г., а патриархом Константинопольским был избран 7 лет назад. Как и его предшественники на этом посту, он по национальности — грек, обладающий турецким гражданством. Район Стамбула (Константинополя) Фанар, где размещается центр православной церкви, не имеет самостоятельной государственности, как Ватикан. При неослабевающем напряжении в греко-турецких отношениях роль патриарха Константинопольского непроста, однако Варфоломей I старается сохранять хорошие отношения с турецкими властями. Нынешнего признанного (всеми православными церквями, кроме российской) главу православия отличает открытость на диалог с другими религиями. Он не столь радикален, как католический костел, в таких вопросах, как антиконцепция, менее аподиктично высказывается по поводу принятия сана женщинами.

За время недельного визита в Польше Варфоломей I посетит Варшаву, Краков и лагерь в Освенциме, центр польского католического костела Ченстохову, Белосток и Белоподляску. Польские власти трактуют визит патриарха Константинопольского наравне с визитами государственных деятелей. Православного патриарха в католической Польше приняли президент этой страны (неверующий) и премьер-министр (протестант). Ему также был присужден титул доктора honoris kausa Христианской теологической академии в Варшаве. Варфоломей I освятил камень под строительство церкви Воскрешения Господня в Семятычах и церкви Св. Юрия в Белостоке, побывал на священной для православных горе Грабарке (там же находится единственный в Польше женский православный монастырь), а также в Хайнувке, недалеко от границы с Беларусью, в мужском православном монастыре в Супрасли, недавно отметившем свое 400-летие.

Польская православная церковь насчитывает около 700 тысяч верующих, организованных в 6 епархий. Православная церковь была "зарегистрирована" в Речи Посполитой в конце XVIII века — в 1788 году на Пинской православной конференции было принято решение, что православная церковь должна приобрести все права в Речи Посполитой, и в 1792 году Сейм наделил ее полными правами. Права автокефальной польская православная церковь получила в 1924 году от патриарха Константинопольского, хотя она до того времени подчинялась Москве, но после революции Россия считалась "безбожной", и польские церковные власти обратились к Константинополю с просьбой об автокефальном статусе. А в 1948 году российская церковь дала польской свое благословение и признала ее самостоятельный статус. Доныне патриарх Константинопольский является почетным председателем польской православной церкви. Польская церковь имеет свою духовную семинарию и "свой" сектор в Духовно-христианской академии, в которой есть еще старокатолический и протестантский сектора. В 1991 г. польский парламент принял закон, который урегулировал отношения между церковью и государством. И теперь польская православная церковь в Польше имеет полную независимость, а церкви и 3 монастыря являются ее собственностью. В польской армии наряду с католическими есть и православные священники, а также представляющие иные верования.

# Аляксандр Лукашэнка стрымаў слова перад ваеннымі пенсіянерамі. І дапамог яму Барыс Ельцын...

Колькі разоў кіраўнік Рэспублікі Беларусь Аляксандр Лукашэнка публічна выказваўся наконт таго, што ўзровень жыцця ў супольнасці двух славянскіх дзяржаў — Расіі і Беларусі — павінен стаць аднолькавым. І пачынаць, маўляў, Беларусь будзе з пенсіянераў, асабліва з ліку былых ваяроў.

І сапраўды, пенсіі ў былых ваенных пасля эканамічнага абвалу ў Расіі параўняліся. Але не ў беларусаў з расійцамі, каб узрасці да іх памеру, а наадварот, пенсіон расійцаў скаціўся да ўзроўню беларусаў: у сярэднім да 50 долараў у месяц. Не нашмат адстаюць і другія катэгорыі тых, хто заслужыў адпачынак.

Выходзіць, умее Аляксандр Рыгоравіч не толькі трымаць слова, але і прагназаваць падзеі ў межах Саюза "дзвюх" краін, старшынёй Вышэйшага Савета якога ён з'яўляецца.

**Вітольд БАРАВІЦКІ.**

Задумаемся!

# Спасение утопающих — дело рук... других утопающих

8 сентября в "Народной воле" была напечатана заметка "Как вылечить Катю по "специальному назначению"? В ней говорилось о том, что родители больной девочки не могут бесплатно получить необходимое ей лекарство по льготному рецепту, хотя в аптеке оно имеется.

Пока что ни одно ведомство не ответило на вопрос, как же все-таки можно приобрести лекарство по льготному рецепту. Видимо, потому, что заметка была небольшая, конкретные лица и организации не были указаны, а посему вопросы, в ней заданные, можно считать риторическими и на них не отвечать. А может, и нет у нас ведомства, в компетенцию которого это входит. И в самом деле, достаточно того, что какое-то ведомство распорядилось выдавать льготные рецепты, — чего же еще?!

Однако помощь девочке все-таки пришла — от 72-летней П., инвалида 2-й группы, страдающей подобным недугом и принимающей это же лекарство. Она безвозмездно отдала несколько упаковок препарата маме Кати. "Я старый человек. Свое пожила, для меня это уже не так страшно. А когда страдают дети, я не могу жить спокойно", — сказала милосердная женщина.

Родители девочки и редакция "Народной воли" выражают огромную благодарность этому великодушному человеку, не называя его имени. Почему? По просьбе самой П.: "Мне эти лекарства тоже бесплатно выдают, и если врачи об этом узнают, мне больше никогда ничего не дадут".

Вот так!.. Помочь одному больному человеку может другой больной человек, но почему-то не может государство. Причем тот, кто помогает, еще и озирается украдкой, как бы государство через своих полномочных представителей (в данном случае, врачей) не наказало его за эту несанкционированную помощь.

Вот уж воистину: спасение утопающих — дело рук... других утопающих! Только надо опасаться, как бы по этим рукам не дали...

Но я вижу в этой истории и светлый, обнадеживающий знак. Есть в нашей стране люди, готовые отдать жизненно необходимое, чтобы помочь больному ребенку. Значит, нравственный потенциал наш не исчерпан, не истреблен, не вытеснен хватательным рефлексом!

**Александра БАТУРИНА.**

# Няма парадку — нясуць адказнасць кіраўнікі

За парушэнні заканадаўства аб працы ў вытворчых калектывах Камітэтам па ахове працы сёлета прыцягнута да адказнасці 5200 службовых асоб. З іх спагнаны амаль 1 мільярд 100 мільёнаў рублёў, да 2855 наймальнікаў прыменены эканамічныя санкцыі на суму 3,7 мільярда рублёў. Па патрабаванні дзяржаўных інспектараў 46 работнікаў, звольненых з парушэннем адпаведнага заканадаўства, аднаўлены на рабоце, сума спагнаных на іх карысць грашовых сродкаў склала 6,1 мільярда рублёў.

Як паведамілі карэспандэнту БелТА ў Камітэце па інспекцыі працы, па-ранейшаму асаблівую трывогу ў яго спецыялістаў выклікаюць няшчасныя выпадкі на вытворчасці. За дзевяць месяцаў на прамысловых прадпрыемствах і ў сельскагаспадарчым сектары загінулі 203 работнікі, 479 атрымалі цяжкія траўмы. Па даных статыстыкаў, сярод галоўных прычын няшчасных выпадкаў на вытворчасці застаецца п'янства. Менавіта ў стане алкагольнага ап'янення загінула амаль 40 працэнтаў ад названай вышэй колькасці работнікаў вытворчасці і 11,7 працэнта атрымалі цяжкія траўмы.

**Таццяна СМІРНОВА.**

Крымінал

# "Левы" спірт канфіскаваны

Больш як 120 тон спірту на суму 23 мільярды рублёў канфіскавана гаспадарчым судом Брэсцкай вобласці на мінулым тыдні па матэрыялах Камітэта дзяржаўнай бяспекі.

Як паведамілі БелТА ў Цэнтры інфармацыі і грамадскіх сувязей КДБ, канфіскаваны "левы" тавар належаў маскоўскім камерсантам, якія праводзілі незаконныя аперацыі са спіртам. Парушэнні былі выяўлены ўпраўленнем КДБ па Брэсцкай вобласці сумесна з мясцовымі падатковымі службамі.

# Кожны атрымаў па заслугах

Праваахоўныя органы рэспублікі вядуць пастаянную работу па выяўленні і спыненні дзейнасці злачынных груповак.

На мінулым тыдні Віцебскі абласны суд разгледзеў матэрыялы крымінальнай справы ў адносінах да адной з такіх груп. Як паведамілі БелТА ў Цэнтры інфармацыі і грамадскіх сувязей КДБ, яе ўдзельнікі былі затрыманы ў кастрычніку мінулага года дзякуючы сумеснай акцыі КДБ і міліцыі. Бандытаў узялі з доказамі злачынства ў час разбойнага нападу на пасажырскі аўтобус на трасе Віцебск—Смаленск. Чацвёра злачынцаў прыгавораны судом да працяглых тэрмінаў пазбаўлення волі з канфіскацыяй маёмасці.

# Сацыял-дэмакраты Літвы патрабуюць прыцягнуць да адказнасці энергетыкаў за беларускія даўгі

Старшыня фракцыі сацыял-дэмакратычнай партыі Літвы Алаізас Сакалас звярнуўся ў Генеральную пракуратуру з просьбай узбудзіць крымінальную справу супраць кіраўніцтва АТ "Летувас энергія" за тое, што яны заключылі нявыгадны для Літвы дагавор аб пастаўцы электраэнергіі ў Беларусь. Як лічыць А.Сакалас, у дагаворы не прадугледжаны сур'ёзныя санкцыі для атрымальніка электрычнасці "Белэнерга", у выніку чаго Беларусь завінавацілася 60 мільёнаў літаў (15 мільёнаў долараў).

**Альгімантас БРАЗАЙЦІС.**

# Грошы трэба лічыць

У першым паўгоддзі гэтага года ў гаспадарках аграпрамысловага комплексу рэспублікі выяўлена нямэтавае выкарыстанне бюджэтных сродкаў на суму больш за 10 мільярдаў рублёў. Аб гэтым сведчаць вынікі праверкі, праведзенай рэспубліканскай Пракуратурай у сістэме Міністэрства сельскай гаспадаркі і харчавання.

# "Скінемся" на трыльён!

Беларусы прапілі ў гэтым годзе 19 трыльёнаў рублёў. Паводле даных Міністэрства статыстыкі і аналізу, "п'яная прадукцыя" займае амаль чацвёртую частку харчовай спажывецкай карзіны сярэднестатыстычнага грамадзяніна. У параўнанні з мінулым годам доля алкаголю ў ёй павялічылася ў супастаўных цэнах больш чым на 3 трыльёны.

**БелТА.**

Память

# Утраченный рай Адама Мицкевича

Двести лет назад родились два гения славянской литературы. 24 декабря 1798 года — Адам Мицкевич, а пять месяцев спустя — Александр Пушкин. В некрологе на смерть Пушкина Мицкевич, переживший почти на два десятилетия своего собрата, писал:

*"Ни одной стране не дано, чтобы в ней больше, чем один раз, родился человек с такими выдающимися и разнообразными способностями, которые обычно, казалось бы, исключают друг друга".*

Эти слова относятся и к самому Адаму Мицкевичу.

Максим Горький назвал Пушкина "одним из славнейших великомучеников русских". Славнейшим великомучеником был и Мицкевич, испытавший и тяжесть изгнания, и горечь личных разочарований, и боль неосуществленных стремлений к возрождению своей родины. Надо прочесть все страницы волнующей книги его жизни, чтобы увидеть, как тяжело переживал он противоречия своего века и своей среды, чтобы понять, как он сумел возвыситься над этой средой и в своих стремлениях, и в своем творчестве.

Адам Мицкевич родился на хуторе Заосье в 60 километрах от Новогрудка 24 декабря 1798 года. От колыбели шумели над его головой прекрасные старые дубравы, кланялись великолепные золотистые нивы...

Крупным событием в жизни Мицкевича было вступление наполеоновских войск в Новогрудок. Польские шляхтичи верили в то, что Наполеон вернет Польше ее самостоятельность. Отец будущего поэта, Николай Мицкевич, завещал эту веру свои детям. Адам восторженно встретил французские войска. Но он видел и паническое бегство "великой армии", когда голодные и оборванные офицеры и солдаты, отступая, проходили через Новогрудок.

После окончания школы в 1815 году Мицкевич приехал в Вильно. Там он проучился год на физико-математическом факультете университета, потом перевелся на историко-филологический. Тогда же он подружился с Томашем Заном, Францишком Малевским и Юзефом Ежковским. В 1817 году они организовали тайное общество "филоматов" (друзей науки), члены которого обязывались "трудиться на благо Родины, науки и добродетели".

После окончания университета Мицкевич был направлен в Ковно учителем уездной школы. Эти четыре года в Ковно были очень сложными для него. Его тяготила преподавательская работа. Но и не только. Во время летних каникул 1818 года в имении Тугановичи Мицкевич познакомился с Марылей Верашчака и влюбился в нее. Несмотря на то, что Марыля была уже невестой графа Путткамера, она не отвергла любовь молодого поэта. С каждой встречей они становились все ближе и ближе. Но Мицкевич понимал, что девушка не может выйти замуж за бедного студента. Весть о том, что Марыля вышла замуж за графа, повергла Адама в отчаяние...

Несмотря на тяжелые переживания, Мицкевич не бездействовал — он переводил "Гяура" и "Чайльд Гарольда" Байрона. А все свои стихи он посвящал своим друзьям-филоматам. "Песнь Адама" становится их первым гимном. Мицкевич посылает виленским друзьям "Песню Филаретов". В ней он заявляет, что народная песня превыше всего, высказывает уверенность, что на смену праву силы придет сила права, в ней он призывает измерять силы по целям, а не цели по силам. В это же время он пишет свою "Оду к молодости", которая на долгие годы становится боевым манифестом передовой польской молодежи.

Из Ковно Мицкевич посылает виленским друзьям свои первые баллады "Люблю я", "Тукай", "Лилии", "Свитязь". В 1821 году он начал писать поэму "Гражина". Поэт остановил свое внимание на действительном эпизоде, предшествовавшем исторической Грюнвальдской битве, закончившейся блестящей победой объединенных сил Литвы и славянских народов над тевтонскими рыцарями. "Гражина" явилась первым поэтическим призывом к единению славянских народов.



Мицкевич пришел к выводу, что, как бы ни были велики личные страдания, есть страдания более возвышенные — страдания народа. Есть счастье более высокое, нежели счастье одного человека, это счастье народа, за которое стоит бороться, стоит отдать свою жизнь.

В 1820 году было организовано тайное общество филаретов("друзей добродетели") под руководством филоматов. И Мицкевичу пришлось на время забыть о своих литературных делах и принять участие в работе этой организации. Вскоре он был арестован и заключен вместе со многими другими участниками в Базилианский монастырь, превращенный в тюрьму. Главную вину принял на себя Томаш Зан.

20 апреля комиссия вынесла свое заключение о Мицкевиче, и на следующий день он был выпущен из тюрьмы на поруки профессора Лелевеля. Полгода он ждал решения, и 22 октября поэту было передано распоряжение — не позднее чем через два дня выехать в Петербург. 24 октября Мицкевич со своими друзьями Малевским и Ежовским покинул родную Литву, чтобы никогда больше не вернуться.

Годы скитания привели Мицкевича в Париж. Там в 1834 году он женился на дочери пианистки Марии Шимановской Целине, которую еще подростком знал в России. Через год у них родился первый ребенок, а вслед еще пятеро детей. Материальные условия жизни были очень тяжелые. В 1838 году Мицкевич получил кафедру римской словесности в Лозаннском университете. Жизнь, казалось, стала налаживаться.

*"Я живу в красивом доме, — писал он из Лозанны, — у меня здесь большой зал с громадными зеркалами и огромными окнами, из которых открывается вид на сад и озеро. По правде говоря, эта квартира — самая большая и, пожалуй, единственная моя отрада. Часто нападает тяжелая тоска по Литве, и все время вижу во сне Новогрудок и Тугановичи".* Поэтическая мысль возвращается к Новогрудку, к Марыле, и он пишет свою замечательную миниатюру:

*Лились мои слезы ручьистые,*
*чистые*
*На детство беспечное*
*и быстротечное,*
*На юность отважную,*
*юность миражную,*
*На годы прозрения,*
*годы крушения*
*Лились мои слезы ручьистые,*
*чистые.*

Польское ноябрьское восстание 1830 года было жестоко подавлено. Мицкевич писал Лелевелю: *"Бог не позволил мне быть участником каким бы то ни было в деле, таком великом, таком важном по своим будущим последствиям. Я живу лишь надеждой, что не сложу бездеятельно руки в могиле..."*

Будущее в непроглядной тьме и настоящее раздражало Поэта. Это была борьба слов без цели. Прошлое отзывалось эхом воспоминаний и несло успокоение изболевшемуся сердцу.

Воспоминания эти не покидали и шли рядом с момента разлуки с Родиной. Теперь он призывал, лелеял их в измученной душе. Тоска вела его в утраченный рай, рай литовских пущ, золотистых нив. Он добывал из залежей памяти картины промелькнувшей жизни, все ее очарование, сладость, невинность. Так родилась триумфальная песня о Литве "Пан Тадеуш". Эта поэма вызывает восхищение, удивление. "Пан Тадеуш" — вершина творчества Адама Мицкевича, его последнее большое произведение...

Остаток жизни он провел в скитаниях, работе и заботах.

Смерть постигла его неожиданно на далеком Востоке, в Константинополе.

**Валерий СКРИБУК.**

**На снимке:** *парк Тугановичи.*

**Фото автора.**

# Галоўная аўтамагістраль Беларусі працягвае маладзець

Рух транспарту на чарговым мадэрнізаваным участку галоўнай аўтатрасы рэспублікі Брэст — Мінск — граніца Расіі будзе адкрыты сёлета ў канцы кастрычніка. Гэта 146 кіламетраў — ад Стоўбцаў да Івацэвіч.

Як паведамілі карэспандэнту БелТА ў Камітэце па аўтамабільных дарогах Мінтранса, работы па рэканструкцыі гэтага адрэзку аўтамагістралі вяла італьянская фірма "Тадзіні".

На яго мадэрнізацыю былі выкарыстаны крэдыт Еўрапейскага банка рэканструкцыі і развіцця, а таксама 700 мільярдаў рублёў уласных сродкаў. Практыка паказвае, што ўсе матэрыяльныя ўкладанні ў будаўніцтва такіх трас акупляюць сябе ў самыя кароткія тэрміны.

**Таццяна СМІРНОВА.**

Глазами художника

Донос.

**Рисунок Сергея КОЗЛОВА.**

